ДУК «Клімавіцкая бібліятэчная сетка»
Аддзел бібліятэчнага маркентынгу




# НЯБЕСНАЯ ЗАСТУПНІЦА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

## Метадычныя парады

ДУК «Клімавіцкая бібліятэчная сетка»

Аддзел бібліятэчнага маркентынгу

# НЯБЕСНАЯ ЗАСТУПНІЦА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Метадычныя парады

Клімавічы - 2016

**Нябесная заступніца зямлі беларускай** : метадычныя парады / Дзяржаўная ўстанова культуры “Клімавіцкая бібліятэчная сетка”, Аддзел бібліятэчнага маркетынгу ; [складальнік Ю. М. Клімянкова ; рэдактар Т. П. Даменікан]. – Клімавічы : Клімавіцкая цэнтральная раённая бібліятэка імя І. Пехцерава, 2016. – 42 с.

*Штогод 5 чэрвеня ўшаноўваецца памяць Еўфрасінні Полацкай – нябеснай заступніцы Беларусі, самай вядомай беларускай святой. У 2016 годзе адзначаецца 915 год з дня нараджэння Еўфрасінні (Ефрасінні) Полацкай.*

*Еўфрасіння Полацкая (каля 1101 г. – 23 ці 25.5.1167 г.) – полацкая князёўна, ігуменння, асветніца – займае асабліва пачэснае месца ў нашай старажытнай гісторыі. Яна стала першай жанчынай, кананізаванай Рускай праваслаўнай царквой у 1547 годзе, прылічанай да ліку святых у 1893 годзе.*

*Жыццёвы шлях і разнастайная дзейнасць Ефрасінні Полацкай адлюстраваны ў дадзеных метадычных парадах. Прадстаўленая інфармацыя будзе карысна ўсім, хто цікавіцца гісторыяй беларускага асветніцтва.*

# ЗМЕСТ

# УСТУП

Многія мысліцелі і асветнікі, якія нарадзіліся ў Беларусі, на працягу XII-XX стст. узбагацілі сваімі ведамі, думкамі, талентам скарбонку айчыннай і сусветнай навукі, культуры. Асімілюючы дасягненні еўрапейскай цывілізацыі, грамадска-палітычныя і рэлігійныя дзеячы, філосафы і педагогі, вучоныя і пісьменнікі, кнігадрукары і краязнаўцы неслі веды суайчыннікам, далучаючы іх да набыткаў агульначалавечай культуры. Яны разумелі і памяталі: веды – гэта тое святло, што, запаленае аднойчы, здольна нязгаснай лампадай свяціць скрозь вякі. Несла святло ведаў і славутая Ефрасіння Полацкая – князёўна, манахіня, ігуменння, паломніца, кананізаваная святая, кніжніца, асветніца, мецэнатка. З яе імем звязана адкрыццё першых адукацыйных устаноў і бібліятэк, стварэнне школы архітэктуры і жывапісу, развіццё рамёстваў. Падзвіжніцтва, асветніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай мелі вялікае значэнне для грамадскага і дзяржаўнага жыцця Полацкага княства. Справу славутай палачанкі падхапілі, паглыбілі і развілі Францыск Скарына і Васіль Цяпінскі, Сымон Будны і Спірыдон Собаль, Сімяон Полацкі і браты Зізаніі.

З цягам часу ўсё больш выразна ўсведамляецца веліч здзяйсненняў Ефрасінні Полацкай. Пра яе жыццё амаль не захавалася дакументальных звестак. Асноўнай крыніцай з'яўляецца "Жыціе Ефрасінні Полацкай...". Яго вывучэнне мае вялікае значэнне для выхавання маладога пакалення: фарміравання духоўнасці, дабрачыннасці, маральна-этычных поглядаў, любві да Радзімы, патрыятызму.

Сёння Ефрасіння Полацкая – сімвал духоўнага служэння сваёй Радзіме, узор адданасці справе і крыніца маральнай сілы і натхнення.

# Жыццё і дзейнасць Ефрасінні Полацкай



Час спрасоўвае стагоддзі, зблізкае падзеі, зносіць нязначнае ў мінулым і захоўвае вечнае, што паўстае з летапісаў, старажытных кніг, гістарычных дакументаў. Дзякуючы гэтым крыніцам з глыбіні вякоў даходзяць да нас звесткі пра людзей, якія праславілі беларускую зямлю. Сярод іх вылучаецца асоба Ефрасінні Полацкай – вечна жывой святой, мудрай асветніцы, дарадчыцы і выратавальніцы ў хвіліны тугі і адчаю. Яна не толькі годна жыла, але і паказвала прыклад іншым, як трэба жыць, як неабходна самааддана і самаахвярна служыць Бацькаўшчыне.

Радзіма асветніцы – Полацкае княства – магутная раннефеадальная дзяржава, дзе кіравала дынастыя Рагвалодавічаў. Ефрасіння паходзіла з гэтага роду. Яе продкамі ў чацвёртым калене былі хрысціцель Русі вялікі князь кіеўскі Уладзімір Святаславіч і гордая княгіня Рагнеда – дачка Рагвалода, а дзедам – легендарны полацкі (а некаторы час і кіеўскі) князь Усяслаў Брачыслравіч (у народзе яго празвалі Чарадзей). Разважлівы і прадбачлівы палітык, ён умацаваў суверэнітэт княства, пашырыў яго межы, нават стаў адным з герояў бессмяротнага “Слова аб паходзе Ігаравым” – прыгадваецца ў той частцы твора, дзе аўтар распавядае пра бітву на Нямізе. У час праўлення князя быў пабудаваны славуты Сафійскі сабор, што і сёння з’яўляецца візітнай карткай Полацка. Нямала нашчадкаў Усяслава – выдатных воінаў, палітыкаў, шчырых патрыётаў – увайшло ў гісторыю Беларусі, аднак наибольшую славу Полацку і ўсёй краіне прынесла ўнучка Чарадзея Прадслава, якой было лёсам наканавана далучыць да свайго імя назву роднага горада і назаўсёды застацца ў яго гісторыі. Менавіта яна стала гераіняй “Жыція Ефрасінні Полацкай...”, што дайшло да нашых дзён у рукапісах XIV-XVIII стст.

Князёўна Прадслава (свецкае імя Ефрасінні) нарадзілася ў сям’і полацкага князя Святаслава-Георгія і княгіні Сафіі, дачкі Уладзіміра Манамаха. Дакладная дата яе нараджэння невядома. Супастаўляючы

розныя даныя, адны вучоныя лічаць гэтай датай 1101 г., другія сцвярджаюць, што дзяўчынка з'явілася на свет паміж 1104-1116 гг. Бацькі князёўны былі па тым часе вельмі адукаванымі людзьмі. Святаслаў- Георгій меў пры княжацкім двары багатую бібліятэку, для якой збіраў творы, распаўсюджаныя ў Візантыі і ў княствах Русі: набажэнскую, духоўную літаратуру, жыціі святых, кнігі па антычнай гісторыі і схаластычным апісанні прыроды. Маці Прадславы, сястра візантыйскага імператара Мануіла І Комніна, знаёміла дзяўчынку з гісторыяй і культурай старажытнай Грэцыі. З маленства князёўна чула ад бацькоў паданні пра славутых продкаў, а яе блізкімі сваякамі былі князі кіеўскія, тураўскія, пераяслаўскія, смаленскія, растова-суздальскія, уладзіміра-валынскія, імператары Візантыі і каралі Венгрыі. Прадслава рана пазнаёмілася з тагачасным палітычным жыццём Полаччыны, з няўстойлівасцю княжацкай улады і міжусобнай барацьбой князёў. Грамадскія і палітычныя падзеі, што адбываліся ў княстве, уплывалі на светапогляд дзяўчынкі, фарміравалі яе характар. Разам з тым традыцыі роду абуджалі ў князёўны не толькі цікавасць да мінуўшчыны Полацкай зямлі, але і патрыятычныя пачуцці, і княжацкую годнасць.

Вучылася Прадслава ў школе пры Сафійскім саборы. Яе настаўнікамі былі манахі, а ў якасці падручнікаў выкарыстоўваліся Біблія, Псалтыр, Часаслоў, жыційная літаратура. Любімымі гераінямі дзяўчынкі з'яўляліся святыя пакутніцы Фяўронія і Еўпраксія. Прадслава хутка навучылася чытаць і акрамя царкоўных кніг вывучала Ізборнікі Святаслава 1073 і 1076 гг., “Александрыю” – кнігу пра подзвігі Аляксандра Македонскага, вострасюжэтную “Аповесць пра Акіра Прамудрага”. З кожным годам кнігі, над якімі заседжвалася дзяўчынка, здаваліся ёй усё больш глыбокімі і мудрымі. Дзяцінства князёўны праходзіла не толькі ў бацькоўскім доме. Яна часта бывала на кірмашах, дзе слухала гусляроў, глядзела выступленні скамарохаў, заходзіла да гандляроў і рамеснікаў. Нянькі і мамка-карміцелька пазнаёмілі Прадславу з народнымі казкамі, замовамі, заклёнамі, пелі ёй абрадавыя песні: на Полаччыне доўгі час існавалі побач хрысціянства і язычніцтва. Часта бачылі князёўну і ў Сафійскім саборы, дзе яна дапамагала сваёй цётцы-ігуменні лячыць параненых. Чуткі пра прыгожую і адукаваную дзяўчыну, што ў тыя часы было вялікай рэдкасцю, разышліся за межы Полацкай зямлі. Калі Прадславе споўнілася дванаццаць гадоў (узрост, з якога ў той час дазвалялася ўступаць у шлюб), да яе зачасцілі сваты. Аднак князёўна

адмовілася ад дынастычнага шлюбу і насуперак волі бацькоў тайна пастрыглася ў манахіні, каб прысвяціць жыццё служэнню Богу і свайму народу.

Адбылося гэта 25 верасня ў дзень святой Ефрасінні Александрыйскай. Пры пастрыжэнні Прадслава, як сказана ў "Жыціі Ефрасінні Полацкай…" атрымала імя Ефрасіння.

Спачатку юная манашка жыла ў манастыры пры адной з парафіяльных цэркваў, дзе шмат малілася, спасцігаючы духоўнасць. Пазней, калі перасялілася ў маленькую келлю пры Полацкім Сафійскім саборы, праводзіла час не толькі ў малітвах і набажэнствах, але і займалася самаадукацыяй. Значную ролю ў пашырэнні яе ведаў адыгралі кнігі. У манастыры Ефрасіння больш паглыблена пазнаёмілася з хрысціянскім вучэннем. Яе ўвагу прыцягвала літаратура, у якой адлюстроўваліся погляды багасловаў на сутнасць чалавечага жыцця, адносіны паміж людзьмі, прычыны барацьбы сіл дабра і зла. Большасць кніг, прачытаных Ефрасінняй, былі рэлігійнымі. Сярод іх – творы візантыйскіх святароў і прапаведнікаў Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова, Васілія Вялікага; Біблія, перакладзеная ў IX ст. на славянскую мову Кірылам і Мяфодзіем; Шасцідзёны, якія дазволілі Ефрасінні ўявіць, як Бог стварыў свет. Чытаючы кнігі, будучая асветніца не магла абысці ўвагай і навуковыя працы Сакрата, Платона, Арыстоцеля і іншых мысліцеляў і філосафаў старажытнай Грэцыі. З гісторыяй славян Ефрасінню пазнаёміла "Аповесць мінулых гадоў", а пра сусветную гісторыю яна даведалася з хронік, прывезеных з Візантыі яе родзічамі. Шляхам самаадукацыі манашка-князёўна набыла вялікую і грунтоўную эрудыцыю ў галіне рэлігійна-маральнай, філасофскай, свецкай літаратуры і ўзялася за цяжкае рамяство таго часу, якое патрабавала сталай навуковай падрыхтоўкі, цярпення, мастацкіх навыкаў, – рамяство перапісчыка.

Працэс пісьма на той час быў надзвычай складаны, працаёмкі і патрабаваў не толькі навыкаў мастацтва, але і нямалай фізічнай сілы. Перапісчыкамі былі ў асноўным мужчыны. Тое, што маладая манашка ўзялася за такую цяжкую справу, ужо само па сабе з'яўлялася подзвігам. Праца па перапісванні кніг займала шмат часу. На той час паняцці "пісьменнік" і "перапісчык" не адрозніваліся адно ад другога, бо існавала агульная назва "спісатель", які мог дапоўніць твор, завяршыць яго. Гэта не адносілася да Бібліі і кананічных рэлігійных твораў. У храмавым скрыпторыі Ефрасіння перапісала

шмат кніг: адны з іх ляглі ў аснову манастырскіх бібліятэк Полацкага княства, што пачыналі тады толькі фарміравацца, другія прадаваліся, а выручаныя грошы манахіня шчодра раздавала ўбогім і жабракам. Таксама яна вяла Полацкі летапіс і збірала бібліятэку Сафійскага сабора. Займалася і ўласнай творчасцю: стварала малітвы, казанні; выступала з прамовамі, якія вызначаліся красамоўнасцю і мастацкай вобразнасцю. Сваёй працай Ефрасіння Полацкая садзейнічала пашырэнню асветы ў Беларусі, але ёй было наканавана лесам яшчэ не адно высокае служэнне Бацькаўшчыне.

Прыкладна ў 1124 г. Ефрасіння атрымала ад епіскапа Іліі вёску Сяльцо пад Полацкам, дзе на высокім беразе ракі Палаты стаяла драўляная царква Святога Спаса, пры якой знаходзілася пахавальня полацкіх епіскапаў. У Сяльцы асветніца заснавала на свае ўласныя сродкі жаночы і мужчынскі манастыры. Пра Багародзіцкі мужчынскі манастыр амаль нічога невядома. Верагодна, пры ім была пабудавана царква Святой Багародзіцы, для якой Ефрасіння Полацкая набыла ў Канстанцінопалі абраз Адзігітрыі Эфескай, напісаны паводле падання першым іканапісцам апосталам Лукой. Гэты твор прыслаў блізкі сваяк полацкіх князёў візантыйскі імператар Мануіл І Комнін у 1158 г., а благаславіў яго Канстанцінопальскі патрыярх Лука. Цяпер абраз знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу ў фондах Рускага музея. Ефрасіння Полацкая была і фундатарам пабудовы каля 1160 г. саборнага храма пры жаночым манастыры (зараз Спаса-Праабражэнская царква), для якой ювелірны майстар Лазар Богша зрабіў знакаміты Крыж (адноўлены ў 1997 г. брэсцкім мастаком М. Кузьмічом). Галоўная царква багата ўпрыгожана фрэскамі, тут размяшчалася келля Ефрасінні, тут князёўна-манашка стала ігуменняй.

Заснаваныя Ефрасінняй манастыры зрабіліся асяродкам асветы ў Полацкім княстве. Пры іх працавалі бібліятэкі, ювелірныя іканапісныя майстэрні, скрыпторыі. У апошніх нават існавала спецыялізацыя: адны майстры выраблялі каляровыя ініцыялы і рубрыкі, другія - мініяцюрныя малюнкі-застаўкі, трэція - пераплёты. Са скрыпторыяў кнігі разыходзіліся не толькі па ўсёй Полацкай зямлі, але і за яе межы. Іх чыталі вучоныя манахі, прадстаўнікі феадальнай знаці, па іх вучыліся грамаце дзеці. Там, у полацкіх скрыпторыях, была складзена царкоўная служба, прысвечаная Ефрасінні, намаляваны яе абраз, напісаны славуты старажытны твор “Жыціе Ефрасінні Полацкай...”. Педагагічная дзейнасць асветніцы таксама заслугоўвае асобнай увагі. У створаных пры манастырах

школах выкладалі чытанне, пісьмо, грэчаскую і лацінскую мовы, нотную грамату, царкоўныя спевы. Аднак ігумення імкнулася пашырыць межы звычайнай праграмы. Юныя палачане атрымлівалі звесткі па прыродазнаўстве, рыторыцы, медыцыне. Вялікая ўвага надавалася гісторыі. Яны павінны былі ведаць радавод дынастыі Рагвалодавічаў, значныя падзеі з мінулага Полацкай зямлі і ўсходняга славянства. Вучыцца маглі нават дзеці простых грамадзян. У манастырскай школе набывалі веды і сёстры Ефрасінні: родная Гардзіслава (у манастве Еўдакія) і стрыечная Звеніслава (у манастве Еўпраксія). Адносіны паміж імі былі надзвычай блізкія з самага дзяцінства. Сёстры заставаліся разам і ўсё далейшае жыццё. Шляхам Ефрасінні Полацкай пайшлі таксама яе пляменніцы Кірыяна і Вольга (у манастве Агаф’я і Яўфімія) і Ефрасіння Рагвалодаўна (святая Еўпраксія Пскоўская). Менавіта прадстаўніцы полацкага княжацкага дому і склалі першы ў гісторыі беларускі гурток жанчын-асветніц, месцазнаходжаннем якога стаў Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.

Амаль паўстагоддзя Ефрасіння Полацкая была ўдзельніцай вялікіх гістарычных падзей, што адбываліся на Полаччыне. У XII ст. ішоў інтэнсіўны працэс феадальнага распаду, утвараліся новыя княствы, уладары якіх вялі жорсткую барацьбу за ўладу. Не былі выключэннем і князі полацкія. Ефрасіння не стаяла ў баку ад братазабойчых сварак, а спрабавала ўсіх памірыць. Ігумення не была абыякавай да таго, хто будзе княжыць у Полацку, хто стане епіскапам, бо лічыла, што свецкае жыццё неадрыўна ад манастырскага.

У красавіку 1167 г. Ефрасіння Полацкая, перадаўшы ігуменства малодшай сястры Еўдакіі, прыняла рашэнне ажыццявіць сваю даўнюю задуму - здзейсніць паломніцтва ў Святую Зямлю, наведаць Іерусалім. У час падарожжа (пешшу, а не традыцыйным шляхам “з вараг у грэкі”) асветніцу суправаджалі стрыечная сястра Еўпраксія і брат Давід. У канцы красавіка 1167 г. Ефрасіння і яе спадарожнікі прыйшлі да іерусалімскіх святынь. Тры дні запар яна наведвалася да Труны Гасподняй. У апошні дзень звярнулася да Бога з малітвай, у якой прасіла дазволу памерці ў святым горадзе. У хуткім часе ігумення занядужала і на дваццаць чацвёрты дзень хваробы памерла. Яна была пахавана ў манастыры Святога Феадосія.

Неўзабаве пасля смерці полацкай ігуменні Святой Зямлі пачалі пагражаць магаметане. У 1187 г., рыхтуючыся да прыступу

Іерусаліма, султан Саладзін за выкуп дазволіў хрысціянам пакінуць горад разам са сваімі рэліквіямі. Як велізарны скарб манахі везлі раку з нятленнымі мошчамі Ефрасінні. Яны хацелі адразу змясціць яе ў Полацку, але перашкодзіла пастаянная варожасць, што не сціхала паміж кіеўскімі і полацкімі князямі. Раку прывезлі ў Кіеў, і мошчы паклалі ў далёкіх пячорах Кіева-Пячэрскага манастыра, у падземным храме Найсвяцейшай Багародзіцы, дзе яны захоўваліся больш за сем стагоддзяў. І толькі ў красавіку 1910 г. Кіеў развітаўся з полацкай ігуменняй: рака з яе мошчамі была перавезена ў суправаджэнні флатыліі рачных судоў па Дняпры да Оршы, а потым яе неслі на руках да Полацка. 23 мая, у дзень памяці Ефрасінні Полацкай, астанкі святой даставілі ў заснаваны ёю жаночы манастыр. У час Першай сусветнай вайны (1915) мошчы эвакуіравалі ў Растоў Вялікі, дзе яны знаходзіліся ў Богаяўленскім Аўраамиевым манастыры да 1921 г. Праз год рака разам з іншымі манастырскімі каштоўнасцямі была рэквізавана. У маі 1922 г. труну святой Ефрасінні ўскрылі і адправілі спачатку ў Маскву на атэістычную выстаўку, а потым - у Віцебскі губернскі краязнаўчы музей для экспазіцыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны праваслаўныя вернікі перанеслі мошчы Ефрасінні з музея ў віцебскую Свята-Пакроўскую царкву, і толькі 23 кастрычніка 1943 г. яны былі вернуты ў полацкі Свята-Праабражэнскі храм, дзе захоўваюцца і сёння.

У канцы XII ст. пры епіскапе Дыянісіі палачане без кананізацыі прызналі сваю асветніцу святой і пачалі малітвамі шанаваць яе. Паколькі Полацк да сярэдзіны XVI ст. з’яўляўся галоўным духоўным асяродкам на беларускіх землях, культ прападобнай ігуменні пашырыўся па ўсёй Беларусі. Паступова святая Ефрасіння зрабілася ў свядомасці вернікаў нябеснай заступніцай не толькі Полаччыны, але і ўсёй краіны. У Маскоўскім княстве пра яе даведаліся ў XVI ст., калі мітрапаліт Макарый уключыў “Жыціе Ефрасінні Полацкай...” у Вялікія мінеі-чэцці. Да гэтага часу адносяцца і царкоўныя спевы пра полацкую ігуменню (адна сціхіра, вядомая ў рукапісе канца XII ст., з’яўляецца ўнікальным помнікам музычнай культуры ранняга Сярэдневякоўя ў Беларусі). Унучка Усяслава Чарадзея была першай асветніцай беларускай зямлі, яна стала і першай усходнеславянскай святой, якую кананізавалі нават раней, чым кіеўскую княгіню Вольгу. Адбылося гэта ў 1547 г. У канцы XX ст. Ефрасіння Полацкая была вернута ў гістарычную памяць беларускага народа і прызнана святой апякункай Беларусі, а ў 1984 г. далучана да Сабора Беларускіх

Святых за дзейнасць на ніве ўмацавання хрысціянскай веры і асветы. Сёння святасць полацкай ігуменні прызнана не толькі праваслаўнай царквой, але і каталіцкай. Нездарма ў зацверджанай Папам Рымскім “Малітве за беларускі народ” ёсць наступныя словы: “Цябе, Прачыстая Багародзіна і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а ты, святая Еўфрасіння Полацкая патронка Беларусі, ды ўсе святыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйце намі, каб мы сталі народам святым, што выконвае волю Божую і свае пасланства...”.

Прайшло больш за восем стагоддзяў пасля смерці Ефрасінні Полацкай, але і ў нашы дні вобраз асветніцы з’яўляецца сімвалам духоўнай сілы нацыі. Самаадданае служэнне Богу і Бацькаўшчыне ўзвысіла славутую палачанку над яе часам і зрабіла імя Ефрасінні бессмяротным. Гэта ў гонар святой, як доўгая памяць аб ёй, гучаць званы не толькі ў Полацку, але і ў далёкім канадскім Таронта, першым праваслаўным храмам якога стала царква імя Ефрасінні Полацкай; у гарадах Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі, ЗША), Лондане (Англія), Вільнюсе (Літва), Корсава (Латвія). Звоняць званы і ў Мінску ў хрысцільнай царкве імя Ефрасінні Полацкай прыхода іконы Божай Маці “Усіх тужлівых Радасць”. Сёння тэта царква займаецца місіянерскай і асветніцкай дзейнасцю. Тут працуюць нядзельная школа і школа званароў, Мінскае духоўнае вучылішча, друкарня Беларускага экзархата. Сястрынства, створанае пры храме, абрала Ефрасінню Полацкую сваёй нябеснай апякункай, і, як калісьці, прападобная ігумення дапамагае хворым, бедным і абяздоленым.

Ужо не адно дзесяцігоддзе вобраз асветніцы прыцягвае ўвагу іканапісцаў, мастакоў, кампазітараў, літаратараў. Полацкую ігуменню можна ўбачыць на роспісах царквы Благавешчання ў Кіева-Пячэрскай лаўры, на фрэсках Віктара Васняцова ва Уладзіміраўскім саборы ў Кіеве. Ёсць абразы беларускай святой у Рыжскім жаночым манастыры, у Кафедральным Успенскім саборы ў Вільнюсе, вялікі вынасны абраз захоўваецца ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры ў Полацку. Многія мастакі прысвяцілі свае творы Ефрасінні Полацкай. Сярод іх вылучаюцца палотны Н. Шчаснай, графічныя аркушы А. Кашкурэвіча. У тэхніцы габелена партрэт Ефрасінні Полацкай стварыў С. Свістуновіч. У 1997 г. у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася выстаўка “Шлях Еўфрасінні”, якую склалі графічныя аркушы і скульптура Н. Апіёк. У 1989 г. Вольгай Моракавай быў зняты фільм “Еўфрасіння Полацкая”.

Каб глыбей спасцігнуць душу выдатнага чалавека, трэба

абавязкова пабываць на яго радзіме. У велічным Сафійскім саборы, дзе Ефрасіння “нача книги писати своими руками”, цяпер - канцэртная зала з арганам, а таксама музейная экспазіцыя, якая знаёміць з археалагічнымі знаходкамі, зробленымі ў час даследавання Полацка. Разам з саборам у ахоўную зону Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка ўключаны архітэктурны комплекс Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, дзе захоўваецца рака з мошчамі прападобнай полацкай ігуменні. Падчас святкавання 1000-годдзя прыняцця хрысціянства ў Полацку з’явілася вуліца Ефрасінні Полацкай, а ў 2000 г. у цэнтры горада быў адкрыты бронзавы помнік асветніцы, аўтарам якога стаў скульптар І. Голубеў - член Саюза мастакоў Беларусі. Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт адобрыў і падтрымаў гэты праект. У будаўніцтве помніка прынялі ўдзел усе палачане: ён быў узведзены на народныя сродкі. Манумент павернуты да галоўнай плошчы горада. Аўтар паказвае Ефрасінню як святую заступніцу Полацкай зямлі. Яна апранута па-манаску, у левай руцэ трымае пацеркі, а правай падымае шасціканцовы Крыж, быццам благаслаўляе ім свой родны горад. Ёсць у багатым мінулым Бацькаўшчыны асобы, без якіх немагчыма ўявіць нашу гісторыю. Сярод іх пачэснае месца належыць Ефрасінні Полацкай. Яе жыццё з’яўляецца прыкладам для нашчадкаў. Ефрасіння Полацкая і ў наш час, “яко луча солнечная”, асвятляе хрысціянскую падзвіжніцкую і асветніцкую дзейнасць у Беларусі.

## Цікавыя факты

— Ефрасіння Полацкая стала першай жанчынай, кананізаванай Рускай праваслаўнай царквой. У 1984 г. яна была прылічана да Сабора Беларускіх Святых і прызнана святой апякункай Беларусі. У спісах XVII—XVIII стст. нават захаваліся царкоўныя спевы пра Ефрасінню Полацкую.

— Імя Ефрасінні Полацкай носяць цэрквы ў гарадах: Саўт-Рывер: (штат Нью-Джэрсі (ЗША) і Таронта (Канада). Беларускі праваслаўны прыход святой Ефрасінні Полацкай ёсць і ў Лондане.

— Існуюць легенды пра цудатворныя здольнасці мошчаў Ефрасінні Полацкай. Адно з першых цудоўных вылячэнняў адбылося пасля перанясення мошчаў святой у Полацак. Сучасныя сведкі расказвалі, што ў Спаскім кляштары жыла манашка, якая пакутавала

цяжкім захворваннем страўніка. Надзеі на выратаванне ўжо не было: боль паслаблялі наркотыкамі. Сёстры, выконваючы жаданне хворай, прывялі яе ў храм і паднялі на памост, дзе яна прыклалася да адчыненых мошчаў святой Ефрасінні. Пасля гэтага манашка адчула такі прыліў сіл, што змагла падняцца і ісці без староннняй дапамогі. Раніцой доктар сустрэў хворую ў двары без усялякіх прыкмет хваробы.

— Усё сваё царкоўнае жыццё Ефрасіння Полацкая насіла на сябе вярыгі — жалезныя ланцугі, у якіх для ўтаймавання плоці хадзілі манахі-аскеты. Рабіла яна гэта так бясшумна, што пра наяўнасць гэтых кайданоў не ведалі ажно да смерці прэпадобнай.

— Ефрасіння Полацкая прызнана праваслаўнай і каталіцкай царквой.






— На ўзнаўленне ракі спатрэбілася 120 кг срэбра, а таксама жэмчуг, аметысты, тапазы і берылы, якімі ўпрыгожаны німб святой. Праца вялася на працягу чатырох гадоў з 2003 года.

— Да дзесяцігоддзя адраджэння Крыжа Ефрасінні Полацкай Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь у 2007г. выпушчаная манета, адчаканеная на Маскоўскім манетным двары. Гэта кілаграмовая срэбная манета наминалам 1000 беларускіх рублёў. Сам крыж, адчаканены на рэверсе манеты, пакрыты золатам і ўпрыгожаны рознакаляровымі камянямі.

— Паводле легенды, вяртанне Крыжа Ефрасінні Полацкай стане пачаткам сапраўднага адраджэння Беларусі.

# Свеціць святое імя праз вякі
## *Вобраз Ефрасінні Полацкай у мастацкай літаратуры*

Вобраз Ефрасінні Полацкай заўсёды прыцягваў увагу беларускіх пісьменнікаў. Жывое славянское слова, над распаўсюджваннем якога так шчыравала наша зямлячка, прарасло яе імем у літаратурных творах. Праца з матэрыяламі пра Ефрасінню, наведванне яе радзімы выклікаюць глыбокае эмацыянальнае ўзрушэнне. Таму не дзіўна, што паэты і празаікі адгукнуліся на вяртанне святога імя сваімі творамі. Вершы, аповесці, апавяданні, раманы пра Ефрасінню Полацкую друкаваліся ў перыядычных выданнях, а таксама выходзілі асобнымі кнігамі. Сярод іх вылучаюцца раманы Т. Бондар "Спакуса", А. Асіпенкі "Святыя грэшнікі", В. Коўтун "Пакліканыя", вершы Д. Бічэль-Загнетавай, Н. Тулупавай, А. Звонака, Р. Барадуліна і іншых пісьменнікаў. Празаічныя творы даюць разнастайны, багаты матэрыял пра жыццё і дзейнасць Ефрасінні і яе сучаснікаў, знаёмяць з гісторыяй Полаччыны. З паэтычных старонак паўстае вобраз асветніцы, падзвіжніцы, духоўнай апякункі Беларусі, непакорнай дачкі і мужнай жанчыны з нялёгкім, але незвычайным лёсом. З выданнямі апошніх гадоў чытачоў пазнаёміць наступны спіс:

Воюш, І. "Я – вясна непаўторная!.." : вобраз Еўфрасінні Полацкай у беларускай літаратуры / Інга Воюш // Роднае слова. — 2001. — № 1. — С. 32–35.

Гальго, Н. Вобраз Ефрасінні Полацкай у беларускай прозе / Наталля Еальго // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта / [рэдкал.: Е Запрудскі, С. Каватёў, Л. Тарасюк; пад агул. рэд. М. Хаўстовіча]. — Мінск, 2002. — Вып. 3. — С. 106–110.

Лысова, Н. Б. Аб адной тэндэнцыі беларускай літаратуры : [на прыкладзе вобразнага ўвасаблення Ефрасінні Полацкай у сучаснай паэзіі] / Н. Б. Лысова // IX Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні, прысвечаныя Дням славянскага пісьменства і культуры (Мінск, 23-26 мая 2003 г.): матэрыялы чытанняў / М-ва культуры Рэсп. Беларусь, Беларус. дзярж. ун-т культуры ; [рэдкал.: М. А. Бяспалая (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск, 2004. — С. 129–133.

Лысова, Н. Б. Вобраз Ефрасінні ў сучаснай паэзіі. Спроба

культуралагічнага аналізу / Н. Б. Лысова // Вестник Полоцкого государственного университета. Серия А, Гуманитарные науки. Философия. Культурология. Литературоведение. Лингвистика. — Т. 1. — №4. — С. 21–25.

Коўтун, В. Пакліканыя : раман-жыціе / Валянціна Коўтун. - Мінск : Мастацкая літаратура, 2007. — 245, [2] с. : іл.

Дудараў, А. Крыж : дыялогі вякоў у сямі частках з эпілогам / Аляксей Дудараў // Полымя. — 2000. — № 6. — С. 48–73.

Масленицына, И. А. О том, что иногда монашеский клобук бывает предпочтительнее брачного венца : новелла / И. А. Масленицына // Летописцы повествуют о любви / И. А. Масленицына. — Минск, 2002. — С. 142–150.

Левшун, Л. Яко луча солнечная : художественно-документальное повествование) / Любовь Левшун // Врата небесные. — 2010. — № 5. — С. 13–18 ; № 6. — С. 11–15 ; № 7. — С. 10–14.

Зарицкий, Н. Ефросинии Полоцкой : стихотворение / Николай Зарицкий // Неман. 2008. № 2. С. 76-77.

### *Дзецям пра Еўфрасінню Полацкую*

Тарасаў, С. В. Ефрасіння Полацкая / Сяргей Тарасаў // Фрэскі: абразкі і апавяданні : [для сярэд. шк. узросту] / Сяргей Тарасаў. — Мінск, 2004. — С. 28–31.

Палачанін, Ф. А. Прападобная Еўфрасіння, ігуменння Полацкая / Ф. А. Палачанін // Школьнікам аб праваслаўнай веры. — Мінск, 2006. — С. 36–38.

Марціновіч, А. А. Святая Еўфрасіння, альбо Адкуль ёсць, пайшла Полацкая зямля : [для мал. і сярэд. шк. узросту] / Алесь Марціновіч. — Мінск : Беларусь, 2009. — 111 с. : іл., рэпрад.

Марціновіч, А. А. Як прамень сонечны: Ефрасіння Полацкая / Алесь Марціновіч // Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі : [для мал. і сярэд. шк. узросту / склад. І. Б. Клепікаў]. — Мінск, 2010. — С. 105–118.

Марціновіч, А. А. Святая Еўфрасіння : нарыс : [для мал. шк. узросту] / Алесь Марціновіч ; [маст. В. П. Сташчанюк]. — 2-е выд. — Мінск : Юнацтва, 2001. — 62 с.: каляр. іл.

Преподобная Евфросиния Полоцкая / [пересказала для детей С. П. Демченко]. — 2-е изд., испр. и доп. — Минск : Белорусская Православная Церковь, 2010. — 17 с. : цв. ил.

## Каб памяць пра асветніцу жыла

***Мерапрыемствы, прысвечаныя асветніцы беларускай – Еўфрасінні Полацкай***

У кожнага народа, кожнай нацыі ёсць свае святыя, заступнікі роду і Радзімы, ці, як цяпер кажуць, знакавыя асобы. Такія постаці, як пуцяводныя зоркі ў бяздонным сутарэнні, кіруюць нашым зямным шляхам, дапамагаючы выбраць правільную дарогу ў жыцці.

Якіх людзей называлі святымі? ***Святыя*** – гэта настойлівыя, самаахвярныя людзі, якія прысвяцілі сваё жыццё служэнню Богу, умацаванню хрысціянскіх нормаў маралі. Гэта тыя людзі, якія пры сваім жыцці больш за іншых праяўлялі любоў да блізкіх.

Еўфрасіння Полацкая – якраз такая асоба, найярчэйшая зорка нашай мінуўшчыны, якая з цемені стагоддзяў асвятляла і асвятляе дарогу ў будучыню сваім нашчадкам-супляменнікам. Так было ў самыя ліхія часіны нашай гісторыі, калі ставілася пад сумненне само існаванне роду-племені.

У 2016 годзе беларуская грамадскасць адзначае 915-годдзе з дня нараджэння нашай славутай асветніцы. З гэтай нагоды прапануем вашай увазе наступныя формы і назвы мерапрыемстваў, якія прысвечаны жыццю і дзейнасці беларускай асветніцы Еўфрасінні Полацкай

- ***Тэматычныя паліцы, кніжныя выставы, выставы-прагляды, адкрытыя прагляды літаратуры, выставы-прысвячэнні, выставы творчых работ чытачоў бібліятэкі, выставы-вітрыны***:

…світальную ратункавую ніць
Ніколі нас пакінуць не прымусяць…
Жыла, жыве і вечна будзе жыць
Патронка Праваслаўнай Беларусі!

*А. Бембель*

***

Адкрывала школы і вучыла,
Кнігі перапісвала штодня.
Славу здабыла па усей Айчыне

Ефрасінні Полацкай імя.

*В. Іпатава*

“915 гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай – полацкай князёўны, асветніцы, беларускай святой”.

“Еўфрасіння Полацкая асветніца Русі”

“Нябесная апякунка Беларусі”

“Нябесная заступніца Беларусі – Ефрасіння Полацкая”

“Преподобная Евфросиния Полоцкая”

“Светач Айчыны”

“Святая Еўфрасіння, альбо Адкуль ёсць, пайшла Полацкая зямля”

“Слава тебе, святой свет преподобной Евфросинии Полоцкой”

“Через книгу к духовности”

Раім наладзіць кніжна-ілюстраваную экспазіцыю пад назвай “Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі” з раздзеламі:

“Беларусь – зямля святая” *(матэрыялы аб Полацкім і іншых беларускіх княствах XII – XIII ст., аб гісторыі хрышчэння Беларусі);*

“Валадарка беларускага народа” *(матэрыялы аб продках Еўфрасінні, яе жыцці і дзейнасці);*

“Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны” *(матэрыялы, прысвечаныя гісторыя Крыжа святой Еўфрасінні, яго знікнення, аб аднаўленні Крыжа майстрам М. Кузьмічом);*

“Свеціць святое імя праз вякі” (*публіцыстычныя, празаічныя творы, вершы, прысвечаныя Еўфрасінні Полацкай*).

У якасці эпіграфа можна выкарыстаць урывак з “Жыція…”:

*“Была яна памочніца пакрыўджаным, зажураным суцяшэннем, распранутым адзеннем, хворым наведваннем ці, проста кажучы,* -
*для ўсіх была ўсім”.*

або верш Д. Бічэль-Загнетавай “Натхняльніца”:

*“Сілай духоўнай узвысіла Полацк высока.*
*Тым, хто імкнуўся да кнігі, свяціла, як зорка...*
*Мове, адзінай дзяржаве шчэ толькі злучацца –*
*Свет нас прымаў як народ па адной палачанцы.”*

- ***Урокі гісторыі, асветніцкія гадзіны, інфармацыйныя гадзіны, гадзіны духоўнасці, гадзіны радзімазнаўства, гістарычныя экскурсы, гісторыка-эстэтычныя гадзіны,***

***гадзіны памяці, гістарычныя вандроўкі, літаратурна-музычныя кампазіцыі:***

“Жыццё, аддадзенае Богу”
“Жыццёвы шлях Ефрасінні Полацкай”
“І чую продкаў галасы, і бачу нашых дзён карэнні”
“Калі прыходзяць анёлы”
“Прападобная дабраверная князёўна”
“Промні асветніцтва Святой Еўфрасінні”
“Пуцяводная зорка Еўфрасінні”
“Святая Еўфрасіння”
“Святая заступніца Беларусі”
“Святая зямлі беларускай – Еўфрасіння Полацкая”
“Святая преподобная Евфросиния Полоцкая – просветительница Белой Руси”

- ***Распрацоўка інфармацыйна-рэкламнай прадукцыі (буклеты, закладкі, тэматычныя плакаты), стварэнне электронных прэзентацый, віртуальныя падарожжы:***

“Святое імя – Ефрасіння”
“Сілай духоўнай узвысіла Полацк”
“Ты наша зорка, Еўфрасіння”
“Як прамень сонечны”
“Унучка Чарадзея”
“Вобраз Еўфрасінні ў жывапісу”
“Еўфрасіння Полацкая ў мастацкай літаратуры”

## Спіс выкарыстанай літаратуры:

**Арлоў, У. А.** Еўфрасіння Полацкая / У. А. Арлоў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1992. — 220 с., [13] л. іл. — (Святыя зямлі Беларускай).

Арлоў, У. А. Асветніца з роду Усяслава : Ефрасіння Полацкая / У.А. Арлоў. — Мінск : Навука і тэхніка, 1989. — 53с. — (Нашы славутыя землякі).

Брага, Г. Нябесная заступніца зямлі беларускай : [да 910-годдзя з дня нараджэння Ефрасінні Полацкай] / Галіна Брага, Кацярына

Враранько // Бібліятэчны свет. — 2011. — № 4. — С. 20–21.
Бушыла, Н. В. Вобраз Еўфрасінні Полацкай ў мастацкай літаратуры // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 7. — С. 59–61. — (“У дапамогу педагогу”).
Грыдзюшка, Т. “Жыццё Еўфрасінні Полацкай” / Тамара Грыдзюшка // Роднае слова. — 2008. — № 4. — С. 30–34.
Дзенісенка, А. Вучыла “голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму” : [аб дзейнасці Еўфрасінні Полацкай] / Алена Дзенісенка // Літаратура і мастацтва. — 2012. — 9 сакавіка. — С. 20.
**Знакамітая дачка Беларусі –** Ефрасіння Полацкая / УК “Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна” ; [складальнік Н.М. Перапечкіна ; рэдактар В. А. Чумакова ; адказны за выпуск А.М. Васіленка]. — Магілёў, 2003. — 10 с.
**Качанка, Л.** Вера нашых бацькоў / Л. Качанка // Эўрыка : Нарысы : Для мал. і сярэд. шк. узросту / укл. Н. Філіповіч. — Мінск : Юнацтва, 2000. — 112 с. : іл.
Козел, А. Святая Еўфрасіння / А. Козел // Беларуская думка. — 2013. — №8. — С.80–82.
**Коўтун, В. М.** Пакліканыя : Раман-жыціе / В. М. Коўтун. — Мінск : Полымя, 2002. — 247 с.
**Марціновіч, А. А.** Зерне да зерня : гісторыя ў асобах. Эсэ, нарысы / А. А. Марціновіч. — Мінск, 1996. — 367 с.
**Марціновіч, А. А.** Святая Еўфрасіння : Нарыс / А. А. Марціновіч. — Мінск : Юнацтва, 1999. — 69 с.
Марціновіч, А. Святая Еўфрасіння, альбо Адкуль ёсць, пайшла Полацкая зямля / А. Марціновіч. — Мінск : Беларусь, 2008. — 111 с.
Нябесная заступніца зямлі Беларускай : [да 910-годдзя з дня нараджэння Ефрасінні (Еўфрасінні) Полацкай] : Бібліяграфічны спіс / Склад.: Г.В. Брага; Т.І. Лагош // Новыя кнігі (дадатак). — 2011. — №4. — С.1–16.
Преподобная Евфросиния Полоцкая / составитель Н. Г. Куцаева. — Мінск : Белорусская Православная Церковь, 2010. — 96 с.
**Тарасаў, С.** Фрэскі : абразкі і апавяданні / Сяргей Тарасаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2004. — 100, [2] с.

*Дадатак 1.*

# «СВЕТАЕТ СВЕТОМ ЧЕРЕЗ ТЕМНОТУ ВЕКОВ СВЯТОЕ ИМЯ ЕВФРОСИНИИ»

## *Час православия*

В зале, где проводится мероприятие для учащихся старших классов, оформлена книжная выставка «Святая земли Белорусской» с репродукциями, слайды из книги Е. Михаленко «Сказание о житии преподобной Евфросинии Полоцкой» демонстрируются на мониторе компьютера. При чтении стихов звучат отрывки из диска «Хвалите имя Господне». Целесообразно на мероприятие пригласить священника.



***Чтец.***

*На берегу Двины широкой,*
*Что в Беларуси синеокой,*
*Стоял великий Полоцк-град,*
*Приволен, красен и богат,*
*Прославлен в летописях, песнях*
*И в древних сказах расчудесных.*
*Битв страшных много прошумело,*
*Горели купола златые*
*Здесь белокаменной Софии,*
*Премудрость божью воспевая,*
*Народ к молитве призывая.*
*Тут правил добрый, справедливый*
*Георгий - князь благочестивый;*
*И в мире мудр, и смел в походах,*
*Князьями чтим, любим народом.*

***Е. Михаленко***

**Ведущая 1.** Именно в его семье в начале XII века и родилась дочь, которой суждено было стать одной из самых замечательных героинь белорусской истории. Новорожденной дали славянское языческое имя - Предслава.

Родители Предславы были по тому времени передовыми, образованными людьми. Ее отец некоторое время жил в Византии, где познакомился с достижениями византийской культуры. Мать - сестра византийского императора Мануила Комнина (другое написание фамилии - Комнена) - также была высокообразованным человеком.

Родители постарались дать дочери хорошее домашнее воспитание, которое предусматривало и обучение грамоте, что во времена Киевской Руси среди женщин было необычайной редкостью. Уже в раннем детстве она была учена «книжному писанию», которое включало тогда такие предметы, как чтение, письмо, счет, пение, а также греческий и латинский языки. В процессе обучения Предслава проявила необычайные способности. Кроме удивительной одаренности, она поражала окружающих редкой красотой. Весть о том, что у князя в Полоцке растет красивая, мудрая и благочестивая дочь, разошлась далеко за границами Полоцкой земли. Со всех концов Киевской Руси в Полоцк зачастили сваты. Видя, что сватовство приносит любимой дочери много горечи, гостеприимный полоцкий князь, провожая гостей, говорил с поклоном, что княжна еще молода и до поры до времени он неволить ее не станет. Но, в конце концов, и он вынужден был уступить.

Узнав, что ее хотят обручить с одним молодым князем, Предслава тайно («утаившися от отца своего и матери и всех домашних») ушла из родительского дома в монастырь, игуменьей которого была ее тетка Романья, и решила постричься в монахини. Тетка, видя юный цветущий возраст своей племянницы, а также опасаясь гнева своего брата - князя Георгия, вначале противилась желанию княжны, но, натолкнувшись на ее непреклонную волю, а также «удивишися разуму отроковицы... повеле воле ее быти». При пострижении в монахини Предслава, как сказано в ее «Житии», получила имя Евфросинии.

**Чтец.**

*Епископ, видя твердость веры*
*И жар молитвы беспримерный,*
*Постричь ее благословил*
*И Евфросинией окрестил.*
*А мать с отцом, узнав про постриг,*
*В слезах пришли, но было поздно...*
*Корили, гневались, рыдая,*

